УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
П69

Мастак
І. Сідаровіч

Аўтар выказвае шчырую падзяку
свайму сябру, бізнесоўцу і выдатнаму
фатографу Антону Вацлававічу Чалею
за дапамогу ў выданні кнігі

**Пракаповіч, І.**
П69 Вышкі / Ігар Пракаповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 116 с.
ISBN 978-985-7057-79-5.

Новую кнігу пісьменніка і краязнаўцы Ігара Пракаповіча склалі невялікія празаічныя творы абстрактна-крытычнага жыццёва-філасофскага зместу з вялікай доляй гумару і несур'ёзнасці, якія аўтар назваў «вышкі».

Кніга будзе цікавая ўсім, хто мае свой погляд на рэчаіснасць і навакольны свет.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7057-79-5**

# ПРАДМОЎКА

*Зірнуўшы на вокладку купленай кніжкі,*
*кожны падумае: «Што гэта — “Вышкі”?»*
*Прозвішча, можа, а можа, імя,*
*ці, можа, клічка слана ці каня?*
*Каб разгадаць гэту загадку,*
*чытай, калі ласка, маю нататку.*

Слова «вышкі» (ад белар. «wyshki») азначае высокі «насціл пад страхой у хляве або ў канюшні для сена, розных гаспадарчых прылад» (ТСБМ, т. 1, с. 594).

Вышкі — гэта таксама літаратурныя творы, пераважна невялікай формы, якія прысвечаны таму, або тым, каго мы называем (або пасылаем) на «вы». Вышкі не маюць прэтэнзіі пыліцца на гарышчах хат побач з раманамі, аповесцямі, апавяданнямі, вершамі, паэмамі і іншымі кананічнымі формамі. Яны адчуваюць сябе ўтульна на жэрдках хлява, дзе жыццё больш прыродна-натуральнае, дзе далёкае становіцца блізкім, а глабальнае — свойскім і дзе яны разам з гаспадарчымі прыладамі могуць быць хутчэй і часцей выкарыстаны.

Па форме вышкі падзяляюцца на класічныя і некласічныя. Класічная вышка

мусіць мецць тры асноўныя элементы: ключ, замок і фанір (філасофска-афарыстычныя назіранні і разважанні). Працэс стварэння вышкі падобны да кароткага гасцявання ў кватэры, у пачуцці, у думцы, у дзеі, у часе, у прасторы. Нас цікавіць жыццё тых, каго мы называем (пасылаем) на «вы», і таму, каб паназіраць, мы бяром ключ, устаўляем у замок і ўваходзім у частку таго свету, у якім існуе наш аб'ект. Мы можам заспець яго ў ложку, у летуценні, на працы, на даху, пад ціскам, пад дубам, каля разбітага карыта і ў мільёнах іншых сітуацый. Увайшоўшы, мы, як гэта бывае з кожным у новых абставінах, заўважаем у першую чаргу не тое, што нам жадаюць паказаць, а тое, што кідаецца нам у вочы. Мы можам не звярнуць увагі на шыкоўны свяцільнік, але заўважым, што лямпачка там адмыслова запэцкана мухамі, мы можам не выказаць захаплення персідскім дываном на падлозе, але ўсцешымся мудрагелістай вяззю павуціння ў куточку і да т. п.

Мы адчуваем нашы адчуванні ад назірання чужога існавання.

Агледзеўшы самае адметнае, мы ўстаўляем ключ у замок і зачыняем уваход. Такая класічная вышка называецца зачыненай. Любы чытач можа патрапіць у яе, скарыс-

таўшы ключ Аўтара, і ўбачыць тое, што бачыў Аўтар. Калі ж Чытач-Сааўтар жадае ўбачыць на гэтай вышцы нешта сваё, то ён мусіць да замка падабраць свой ключ і самастойна разглядаць тое, што захоча. З гэтага вынікае, што класічная зачыненая вышка можа выконваць функцыі маткі для ўтварэння калоніі роднасных вышак з адным замком, але з рознымі ключамі.

Класічныя незачыненыя вышкі на ключ і замок не запіраюцца, і Чытач-Сааўтар можа вольна прадаўжаць іх амаль да бясконцасці, папаўняючы сваімі назіраннямі і мудрымі разважаннямі. Знак ______________ з'яўляецца запрашэннем да творчых практыкаванняў.

Некласічныя вышкі не маюць акрэсленых форм. Працэс іх утварэння нагадвае рыбалку спінерам, калі, кідаючы бляшню ў выпадковае месца, не ведаеш, што апынецца на кручку: ці стары разарваны бот, ці ржавая бляшанка, ці корч, ці добры шчупак.

У канцы кожнай вышкі мусіць быць кавалак чыстай паперы, каб Чытач-Сааўтар мог запісаць там свае каштоўныя думкі.

Аўтар спадзяецца, што першае выданне «Вышак» стане масава-народнай (а можа, і міжнароднай) з'явай: кніжку будуць гар-

таць, глядзець, нюхаць, каштаваць, рваць, выкарыстоўваць на распалку і па патрэбе, а таксама чытаць і запісваць у ёй свае геніяльныя думкі.

Аўтар мае надзею, што сярод Чытачоў будзе дастаткова інтэлігентных людзей, якія б маглі з купленай кніжкі вырываць лісты (або ксеракапіраваць) і разам са сваімі створанымі вышкамі высылаць на адрас Аўтара (можна з лістом да Аўтара з цёплымі і ласкавымі словамі аб ягоным таленце).

Усе Чытачы-Сааўтары будуць мець магчымасць удзельнічаць у другім выданні «Вышак», а таксама маюць шанц перамагчы ў конкурсе (умовы конкурсу шукай у канцы кніжкі).

Ну дык на вышкі!

*Аўтар*

I

# Жыва пісны акт

Вам вядомыя патаемныя глыбіні мастацтва.

Вы вучыце, як трэба трымаць пэндзаль і што трэба рабіць з натурай.

Вы абазнаныя ў найдалікатнейшых памкненнях паэтавай душы.

Вы бераце мальберт, разводзіце фарбы і... Выцягваюцца ўперад вашыя сківіцы, ператвараюцца ў чорныя ямы насавыя храпы, знікаюць з ілба маршчыны і па твары разрастаецца поўсць. Яна пачынае прабівацца з-пад крыса рукава і вылазіць з-пад гальштука. Вы адчуваеце, што адзенне абмяжоўвае вашу свабоду творчасці. Вы пазбаўляецеся кайданоў цывільнага адзення і...

Вось ужо на крэсле ўссядае юрлівая ліслівая малпа, якая замілавана паглядае на ўзвышаную і ўладную натуру, якая таксама адкідае ўмоўнасці і ўваходзіць у ролю: на выцягнутай шыі вырастаюць доўгія вушы, размякчэлыя капыты застываюць у позе паблажлівасці, а з аслінай морды паветра пачынае выносіць усхвалянае «І-а, і-а».

Прыгожая авечка, што з'явіцца на палатне, дадасць гонару аслу і кіне манету малпе.

Акт творчасці закончыцца.

Чым больш асёл будзе падобны на авечку, тым болей спадзяванняў ёсць на тое, што ён прышле са сваёй канюшні малпе адмысловы скрут саломы з надпісам: «Лаурэату. Лавровый венок».

II

## Слінагон

Навошта вы прыйшлі ў гэты свет?

Вашы кволыя целы закручаны ў грубыя робы, у якіх можна рабіць толькі бруднае.

Вашыя мутныя вочы шчыльна заплюшчаны, бо вы баіцеся ўбачыць тое, чаго бачыць не хочацца.

Вашыя авечыя вушы зашчэплены на пудовыя замкі, і ключы ад іх знаходзяцца ў некага…

Вашыя раты разяўленены напоўніцу ў спадзяванні, што лыжкі салодкай атруты не абмінуць іх.

Ды і галовы вашыя — толькі твары: сонечны цень паказвае на зямлі адсутнасць той часткі, дзе павінны быць мазгі.

Навошта вы прыйшлі ў гэты свет?

Навошта я пытаюся ў вас?

Навошта я пытаюся?

Навошта я?

Навошта?

Раззяўленыя раты з такой апантанай цярплівасцю чакаюць жаданае лыжкі…

Глытайце сліну…

III

## Месіянства

Вы ведаеце, як трэба жыць.

Вы ведаеце, што не ўсе ведаюць, як трэба жыць.

Вы ведаеце, што не ўсе ведаюць, што вы ведаеце, як трэба жыць.

І таму вы вучыце, як трэба жыць.

Нават тых, хто не жадае ведаць, як трэба жыць.

Нават тых, хто не жадае вучыцца, як трэба жыць.

Нават тых, хто не жадае вучыцца ў вас, як трэба жыць.

І яны жывуць самі па сабе.

І яны не вучаць жыць.

Яны — жывуць.

І яны жывуць лепш, чым вы.

Але ж вы ведаеце, як трэба жыць…

IV

## Камбікорм

Вы любіце, калі вас кормяць.

Вы радуецеся, калі вам ампутуюць мазгі.

Вы бязмежна шчаслівыя, што на вашых вушах вісяць пудовыя замкі, а целы сцягнуты ўтаймавальнымі балахонамі.

Вы не жадаеце шукаць смачнейшую ежу, бо для гэтага трэба нешта рабіць.

Вы не жадаеце мець мазгі, бо іх наяўнасць прымусіць вас думаць.

Вы не жадаеце мець адкрытыя вушы, бо яны могуць пачуць не тое, што вам хочацца.

Вам падабаецца быць у балахоне, бо гэта так прыемна абмяжоўвае вашы рухі.

Таму што вы любіце, калі вас кормяць.

V

## Гля ў люстру

Вы любіце глядзець самі на сябе.

Вы любіце тых людзей, якія глядзяць на вас.

Вы любіце тых людзей, якія кажуць пра ваш розум і прыгажосць.

Але ваша багатае адзенне робіць з вас агароднае пудзіла.

Але рысы вашага твару нагадваюць веснавыя каляіны дарог на ўскрайку ўзаранага поля.

Але ці можа быць каліва розуму ў парожнім паўцабэрку?

Ды і навошта мець розум, каб любіць сябе?

Навошта мець люстру, калі ёсць тыя, што скажуць пра вашу прыгажосць?

Навошта мець густ, калі ёсць багацце?

Навошта глядзець у кніжку, спрабуючы зразумець тое, чаго ў вас няма?

Глядзіце ў люстру!

Там вы ўбачыце розум і прыгажосць любімага чалавека.

VI

## Грашовая слепата

Вы цешыце сябе тым, што ў бліжэйшай будучыні станеце больш заможнымі.

Вы лашчыце сябе думкамі аб тоўстым кашальку і марыце пра жыццё ў раскошы.

Вы цяжка працуеце і збіраеце грошык да грошыка.

Ваша схованка з маленькімі манеткамі таўсцее марудна, але таўсцее.

Яна таўсцее непараўнальна больш марудна, чым вышыня ўзлётаў вашых мараў.

Кожны дзень вы пералічваеце свае грошыкі, і іх павелічэнне пашырае абсяг вашых жаданняў.

У сваім захапленні вы робіцеся сляпымі.

Вы не заўважаеце, што ўжо вялікая купка зладзеяў таўчэцца ля акна вашай хаты, цікуючы за вашым лічэннем і за вашымі жаданнямі.

Вы не бачыце збляднелай змучанай жанчыны з пакручанымі валасамі і з ліхаманкавым святлом у вачах.

Вы не чуеце гарачае дыханне бравага вайскоўца, у якога фуражка сядзіць на плячах з-за адсутнасці галавы.

Вы не адчуваеце мяккіх крокаў ліслівага чыноўніка, у якога ад лізання чужых пятак язык высалапіўся, як у сабакі, а спіна сагнулася ў пытальнік.

Вы не бачыце маленькага чалавечка з юрлівымі вачаняткамі і ліпкімі рукамі.

Вы нават і не здагадваецеся, што непрыемная баба з касой таксама падышла да акна і прымасцілася ў чаргу.

Каб вы азірнуліся, то ўбачылі б, як зацікаўлена Хвароба, Вайна, Дзяржава, Злодзей і Смерць глядзяць на вас і на вашы грошы.

Але вы лічыце маленькія манеткі і марыце стаць больш заможнымі.

Лічыце, пакуль яны вашы…

VII

## Аслы думак

Вы шануеце тых, хто ўмее соладка гаварыць.

Вы можаце слухаць іх гадзінамі, суткамі, месяцамі і сваімі думкамі лёгка і бесклапотна ляцець услед за словамі мядовага прамоўцы.

На заднім месцы вашага таза такое мяккае сальца, што сядзець на ім — адно задавальненне.

Цёпла і ўтульна. Нішто не перашкаджае расслаблена развесіць вушы і, разявіўшы рот, пусціць з вуснаў на бараду салодкую сліну.

Ах, як цікава слухаць прамоўцу! Як далёка за небакрай ляцяць ягоныя думкі, а вашы, як аслы, цярусяць наўздагон, адчуваючы асалоду ад неабсяжнасці і пустэчы.

Слухаючы, нічога не трэба рабіць.

Зад заняты тым, што трымае ў высокім захапленні галаву з адтапыранымі вушамі.

Вы шануеце тых, хто ўмее соладка гаварыць.

## VIII
## Справадыр

Вы маеце вочы, але вы сляпыя.
Вы маеце вушы, але вы глухія.
Вам патрэбны правадыр.
Ён вам пакажа, на што трэба глядзець.
Ён вам растлумачыць, што гэта значыць.
Нават у сваёй хаце, калі робіцца трывожна, вы шукаеце на сцяне выяву правадыра.
Правадыр усё бачыць і ўсё ведае.
Як жыць без правадыра?

IX

## Вечныя малюскі

Вы вечныя вандроўнікі сярод чатырох кутоў роднай хаты.

Вы вечныя плакальшчыкі свайго лёсу на прызбе здрады.

Вы вечныя ўдзельнікі натоўпу, які смярдзіць халуйствам і засмоктвае, як багна.

Вы — вечныя п'яніцы бруднага кактэйлевага пойла з падману, халопскага гонару і проста паскудства.

Вы — вечныя крывасмокі родных братоў і сясцёр, бо на далейшых у вас не хапае даўжыні джала.

Вы — вечныя і ўсёабдымныя прастытуткі, якія, даўно пазбавіўшыся гонару, пазбаўляюцца зямлі, краіны, айчыны, мовы.

Вы — вечныя малюскі, у якіх мазгі адмыслова зачыненыя ў двухстворкавы панцыр.

Вы — вечныя гідкія, слізкія, гнуткія, дубаломныя, сэрцахалодныя стварэнні.

Вы — вечныя…

Можа, таму вы і вечныя?

## X

## Без прыдыхання

Вы за эпоху свайго гераічнага жыцця назапасілі ў нетрах душы і цела шмат разнастайных, размаітых, рознакаляровых, рознапалярных якасцей, якія пачынаюцца з літары «Л».

Лаўтухі, ліхвяры, лабатрасы, лабадубы, лірахвосты, лазаходцы, лізаблюдцы, лісапілы, лесафобы, ламадары, лупадупы, лужаплескі, лыжаграблі, лажакеглі, ладаконі, лакадумы, лазашвабры, лузашары, лубадабы, лемасолы, лямантамы, лямчадалы, лічбагады, лескарыбы, лейкаводы, лыбкавушы, любашлюбы, лінгваненцы, лангекурцы, лямкацягні, люльказыбкі, леркамерцы, лункапелькі, лыжкасосцы, лярваморды, ляснітрэсні, ленкіенкі, лаймывайкі, лайкагаўкі, ластыклейкі, лабасвакры, ламціцюхці і лішаклішкі.

Можа гэта і добра, што вы не апісваецеся пакуль што той літарай, якая гаворыцца з прыдыханнем…

XI

## Незакалыханыя калыханкай

Вы такія разумныя, калі маўчыце.

Вы такія прыгожыя, калі вас ніхто не бачыць.

Вы такія пяшчотныя, калі вы спіце.

Вы такія добрыя, калі вы без нас.

Але чамусьці вы крычыце і размахваеце рукамі.

Але чамусьці вы ходзіце так, што адбіваецеся ва ўсіх люстрах.

Але чамусьці вы не жадаеце спаць.

І чамусьці вы ўвесь час з намі.

XII

## Цырк

Вы любіце цырк.

О! Цырк — гэта так прыгожа!

Цырк ёсць найвялікшае мастацтва, якое вынайшаў за сваю гісторыю чалавек. Бо там ёсць клоўны.

Цырк — гэта клоўны, клоўны і клоўны. Усё, што не клоўны — гэта адпачынак ад рогату.

Гэта магчымасць ёрзнуць на сваім заднім месцы, гэта магчымасць прабегчыся сваімі ашалелымі вачмі па ашалелых вачах суседзяў, гэта магчымасць для з'яўлення на свет нейкай думкі…

Але не! Зноў клоўны! Нахалеру думаць! Трэба глядзець!

Цырк!

О, якая гэта асалода — цырк! І клоўны, клоўны, клоўны!

Гэта найвялікшае мастацтва, якое прыдумаў чалавек за ўсю сваю шматпакутную гісторыю.

Вы любіце цырк…,…?…!

XIII

## Маглі б

Вы маглі б увайсці ў палаючую хату і выратаваць з агню маленькае дзіця.

Вы маглі б на касмічным караблі паляцець у космас і здзейсніць новыя адкрыцці ў навуцы.

Вы маглі б патэлефанаваць сябру і павіншаваць яго з днём нараджэння.

Вы маглі б узараць гектар зямлі і засеяць яго пшаніцай.

Вы маглі б пазнаёміцца з прыгожай жанчынай і зрабіць яе шчаслівай.

Вы маглі б стаць настаўнікам і выхаваць сотню ідэальных вучняў.

Вы маглі б купіць вялікі букет і падарыць кветкі невядомай дзяўчыне.

Вы маглі б узяць рукзак і зрабіць узыходжанне на Эверэст.

Вы маглі б уключыць музыку і танцаваць рэп колькі сутак запар.

Вы маглі б зрабіць вуду і паехаць на зімовую рыбалку.

Вы маглі б адрасціць бараду і не галіцца да дасягнення славы.

Вы маглі б выпіць паўлітра гарэлкі і аўтаматычна вярнуцца дадому.

Вы маглі б вывучыць мовы і перакладаць з вавілонскай на асірыйскую.

Вы маглі б надзець генеральскі мундзір і камандаваць парадам.

Вы маглі б зняць пантофлю і паказаць усім кузькіну маць.

Вы маглі б…

Але вы думаеце, што ж такое б зрабіць?

XIV

## Асалода лёсу

Вы маеце асалоду лічыць варон.

Вы узнёсла падымаеце свае рыльцы ў неба і лічыце варон.

Вы ведаеце, што іх многа.

Але вы жадаеце ведаць, колькі ж іх ёсць.

І таму вы маеце асалоду лічыць варон.

Вароны кружаць над вамі, каркаюць і, бывае, робяць непатрэбную справу, якая цёплым камячком падае вам у рот або на нос. Вы гэта асцярожна выплёўваеце або выціраеце і зноў лічыце варон.

Звычайна вы збіваецеся на першым дзясятку і тады пачынаеце спачатку.

Вы зноў лічыце варон.

Вам сумна, калі іх няма, бо няма каго лічыць.

І тады вы лічыце дні, гадзіны і хвіліны да таго часу, калі можна будзе лічыць варон.

Бо вы маеце асалоду лічыць варон. Шкада, што ў вас няма крылаў, а то б варон стала яшчэ больш, а значыць, больш і асалоды.

Лічыце варон, пакуль рот яшчэ здольны выплёўваць іх неспадзяваную ўдзячнасць.

## XV
## Паралельна

Вы смакуеце хваляванне пачуццяў, калі назіраеце паралельныя працэсы.

Вам падабаецца, калі два сабакі стаяць хвастамі адзін да другога і не могуць расчапіцца.

У вас торгаецца нешта ніжэй душы, калі вы націскаеце на кнопку шарыкавай ручкі і стрыжань то з'явіцца, то схаваецца.

Вы адчуваеце замілаванне, адшукаўшы ўвосень на ляшчыне гронкі арэхаў, і, захопленыя з'явай, намармытваеце тады дзіцячую загадку: «Па чатыры і па пяць, залупіўшыся, вісяць…»

Нешта трапяткое падымаецца ў сярэдзіне вашай істоты, калі вы бачыце, як павольна падымае сваю стралу пад'ёмны кран.

Вас агортвае ўнутранае напружанне, калі на экскурсіі вы аглядаеце голых карыятыд.

XVI

## Гадлюстраванне

Вы маеце пачуццё настальгіі.

Вашу настальгію выклікае тэрарыум.

У тэрарыуме жывуць змеі.

Змеі маюць немігаючыя вочы і доўгія джалы.

Немігаючыя вочы глядзяць на вас і зачароўваюць.

Зачараваныя, вы гледзіце ў іхнія вочы, як у люстэрка.

У люстэрку вы бачыце свае доўгія джалы.

Джалы падобныя на пакаранне ворагаў.

Пакаранне ворагаў гадзючна звіваецца ў вашых мазгах.

У вашых мазгах няма месца для спагады.

Спагада жыве ў вялікіх, а не ў сплясканых галовах.

У сплясканых галовах ёсць лупатыя немігаючыя вочы.

Немігаючыя вочы глядзяць у вочы змяі, як у люстэрка.

У люстэрку адбіваецца джала і адсутнасць мазгавых звілін.

Мазгавыя звіліны варушацца ў вялікіх галовах.

У галовах сплясканых жыве настальгія.

Настальгію выклікае тэрарыум.

У тэрарыуме жывуць змеі.

Змеі маюць немігаючыя вочы.

Немігаючыя вочы глядзяць на вас і зачароўваюць.

Зачараваныя, вы гледзіце ў іхнія вочы, як у люстэрка.

(І гэтак далей, пакуль вам не надакучыць глядзець у люстэрка.)

## XVII
## Вусаты дзіў

Вы ненавідзіце прусакоў, але любіце насіць вусы.

Вы не паважаеце сакавіцкіх катоў, але маеце гонар мець палюбоўніцу.

Вам не даспадобы параўнанне са свіннёй, але як паважна вы ходзіце ў боціках са свінячай скуры.

Вы захапляецеся рагамі аленя, але не бачыце, як шляхетна гайдаюцца яны на вашай галаве.

Вы пасміхаецеся з мядзведзя, які ўсю зіму спіць у бярлозе, але самі з вялікай асалодай валяецеся ўвесь выхадны дзень у ложку.

Вы праклінаеце сабак, што брэшуць на вас з завуголляў, але не заўважаеце сліны на сваіх вуснах, калі апантана лаецеся з суседам.

Вы дзівіцеся з цярплівасці каня, які ідзе пад пугай, але самі штодзень упарта ходзіце на дзяржаўную службу.

Вы вяселіцеся, гледзячы на малпу, але не бачыце, што адрозніваецеся ад яе толькі адсутнасцю хваста.

І ўсё ж, больш за ўсё вы ненавідзіце прусакоў, бо яны вусатыя.

XVIII

## Энтузіязм курасадні

Вы любіце бадзёрасць.

Вы весела падымаецеся з ложка і выбягаеце на свежае ранішняе дварышча.

Вы любіце энергію.

Вы робіце жвавыя рухі канечнасцямі, пакуль вочы не заплывуць потам.

Вы любіце чысціню.

Вы становіцеся пад струмень халоднай вады і фыркаеце ад задавальнення.

Вы любіце радавацца.

Вы гледзіце ў тумановую далячынь — туды, дзе падымаецца сонца, і вас агортвае жаданне вышыні.

Вы любіце вышыню.

Вы залазіце на страху і на ўсю моц да хрыпу крычыце «Ку-ка-рэ-ку!»

Вы любіце пачуццё палёту.

Вы скачаце са страхі ўніз і ламаеце сабе нагу.

Вы змушаны палюбіць спакой.

Вы кладзяцеся ў ложак і лежыце, пакуль не зрасцецца нага і не вернецца бадзёрасць.

Вы любіце бадзёрасць.

(Глядзі спачатку!)

XIX

## Быццам бы

Вы марыце пра неабсяжнае.

Вы крочыце ў невядомае.

Вы быццам бы апантаныя, але ўсё ж такі асцярожныя.

Вы быццам бы непадкупныя, але ўсё ж такі прадаяцеся.

Вы быццам бы справядлівыя, ды толькі ў суддзёвай мантыі.

Вы можаце быць альтруістамі, калі толькі пажадаеце.

Калі толькі пажадаеце…

Калі толькі пажадаеце…

## XX
## Адзін пахкі след

Вы любіце сябе.

Вы падоўгу стаіце каля люстры і адчуваеце вялікую прыемнасць.

Вы любіце сябе.

Вы любіце свой рот, які праглынае каўбасы, бульбу, скваркі і садавіну.

Вы любіце свой лоб, на якім з’яўляюцца такія шматзначныя зморшчыны, калі вы спрабуеце думаць.

Вы любіце свае валасы, якія захоўваюць сваю пекнасць толькі адзін дзень пасля мыцця, а потым ператвараюцца ў непрывабнае вароніна гняздо.

Вы любіце свой нос, які падобны на бульбіну і які можа адрозніць пах свежага гною ад старога.

Вы любіце свае пальцы, якія ўмеюць пагражальна махаць ворагу і аўтаматычна скручвацца ў дулю.

Вы любіце свае грудзі, у якіх б’ецца такое пяшчотнае і нікому не патрэбнае сэрца.

Вы любіце свой жывоцік, па якім мякка і рамантычна могуць плаваць рукі супрацьлеглага полу.

Вы любіце свой орган, які так непасрэдна рэагуе на пагладжванне жывата.

Вы любіце нават свае экскрэменты і перажываеце, калі развітваецеся з былой часткай вашага «я».

Не трэба.

Вы прыходзіце і адыходзіце, а экскрэменты застаюцца.

Радуйцеся!

І вы пакінулі свой пахкі след у гісторыі…

XXI

## Звер хам-еле-он

Вы — элітныя звяругі ў раскошным заапарку юрскага (ці, можа, ваньскага, ці, можа, білскага) перыяду на планеце Зямля.

Вы ўмееце хадзіць, але таксама і лазіць па дрэвах, лятаць у сферах, поўзаць па плоскасці, бегчы па чужых галовах і вылізваць лісліва чужыя сляды.

Вы добра адчуваеце перамену колераў і можаце даваць кансультацыі хамелеонам у тым, як трэба чырванець, калі спеюць левыя лімонкі і апельсінкі, як трэба бялець, калі пацягне вецер з Атлантыкі, як трэба чарнець, калі пачынаюць шпацыраваць маршам брытагаловыя, як трэба рабіцца анёльна-блакітным, калі ўрад праводзіць чарговыя сацыяльна-крывавыя разборкі.

Вы навучыліся глядзець на свет у тысяча і адным варыянце паставы сваіх вачэй: можаце вылупіць адно вока, а можаце і два, а можаце і не вылупліваць, а толькі троху прыжмурыць, а можаце і заплюшчыць іх (так усім здасца), а вы будзеце ўсё бачыць, можаце глядзець наперад, а сачыць патылі-

цай, можаце… Цяжка нават назваць тысячу і адно ваша «можаце».

Вы ж і чуеце многа! Вам дадзена ў сімфоніі лавіць гармонію, а ў гармоніку выломліваць кнопачкі. Піск камарыка каля тварыка, песня кулечкі ля мазгулечкі… Не, лепей песенькі для Алесенькі.

Вы — элітныя звяругі, і ўсё сказанае пра вас пацвярджае, што вы элітныя, а несказанае — што вы звяругі…

## XXII
## Любундукі

Вы — батарэйкі, што грэюцца на батарэях у спадзяванні вярнуць унутранае цяпло.

Вы — лямпачкі, што сумна вісяць у цёмных пакоях глыбокіх склепаў з надзеяй калі-небудзь успыхнуць.

Вы — ластаўчыны гнёзды, што наседжвае холад у доўгую крывіцкую зіму, у няведанні, што вы чакаеце птушынага цяпла.

Вы — вожыкавы іголкі, пра якія ён марыць, калі яго падстрыглі.

Вы — дундукі, што жывуць у сваіх гарундуках, ездзяць на сваіх аўтандуках і мараць аб сваіх любундучыхах.

Вы — любундукі, у якіх падселі батарэйкі, але спадзяванне вярнуць страчанае цяпло прымушае шукаць цёплыя ластаўчыны гнёзды, але знаходзіць у іх квохкаючы холад, які спрабуе накалоць вас сваімі вожыкавымі іголкамі, не разумеючы, што замест скуры на вашых целах павыпіралі пульхнымі пузырамі перагарэлыя лямпачкі.

А яны так лёгка б’юцца.

## XXIII
# Задні ліхтар

Вы прыйшлі ў гэты свет, каб авалодаць дрэвам жыцця.

А дрэва гэтае прыгожае, як каханая дзяўчына, і высокае, як найвышэйшы эўкаліпт.

Там, у высокай кроне, калышацца такое вабнае яйка сонца. Там утульна, цёпла і шчасліва, і таму вы лезеце на дрэва.

Уверх!

«Га-га-га» ды «хі-хі-хі». Жарцікі маладосці ўзрушваюць адрэналін і напампоўваюць сілы.

Вы аслеплены далёкім сонцам і магчымасцю паўзці ўверх.

Але прыйдзе час, калі, падняўшы вочы ўгору, ўбачыце нешта нечакана белае. Яно будзе таксама рухацца і таксама ўверх. Троху пазней вы зразумееце, што гэта — зад чалавека, які паўзе па дрэве жыцця перад вамі. Ён голы і блішчыць, бо штаны сцерліся да нітак.

Спачатку вы будзеце рагатаць. Потым — усміхацца. Пазней — станеце сур'ёзнымі. І, урэшце, вас агорне страх.

А калі чалавек будзе падаць?

А калі чалавеку забаліць жывот?

А калі…

Што тады?

Вы асцярожна зірняце ўніз і ўбачыце яшчэ аднаго чалавека, асветленага ліхтаром вашага зада.

## XXIV
## Калі можна так сказаць

Вы, калі можна так сказаць, ашчадна перабіраючы словы, узважваючы іх на шалях розуму і сумлення, улічваючы, што пра вас і так ужо многа сказана featureнага, у тым ліку і сапраўднага, а сапраўднае ў нашы дні гаварыць зусім рызыкоўна, бо толькі цэнзурнае слова лічыцца сапраўднай праўдай, але пра вас яно, прабачце, ні фіга не скажа, а толькі навядзе цень на зразумелае ўсім гніллё, хоць і гніллё гніллю, паверце, бывае розніцай, як галава і ногі, або як тое, што ясі, і тое, што выпіхаеш з сябе, так што акрэсліць вашу ўнутраную сутнасць можна толькі шырока адкрыўшы забрала, шырока адкрыўшы рот і шырока адкрыўшы галасавыя звязкі, каб тое слова, што народзіцца ў сэрцы, скалатнуўшы лёгкія, выплеснулася ў звонкае ад напружанай пустэчы паветра, рванула ўверх да нябеснага кумпала, бразгатнула там у бубен сонца ды, адскочыўшы, моцна ўпярыла вам у лабэшнік або ў патыліцу, а мо і туды, і туды аднachасова. От тады вы не толькі пачулі б яго, але і атрымалі б пякучы ўспамін на эпітэліі вашага цела.

Карацей кажучы: Вы — казлы!

## XXV
## Майстэрства

Вы — вялікія майстры, бо многае ўмееце рабіць хутка і неахайна.

Магчыма, каб хутчэй развалілася і каб з атрыманага абломкавага матэрыялу зрабіць нешта новае хутка і неахайна.

Вы хапаеце ў рукі шмат дзірак, звязваеце іх — і ў вас атрымліваецца сетка.

Вы слухаеце цішыню, раскладваеце яе па нотах — і ў вас атрымліваецца песня.

Вы пасяляеце дрожджы ў салодкую вадкасць, выклікаеце бурную рэакцыю — і ў вас атрымліваецца гарэлка.

Вы жывяце ў рэспубліцы, выбіраеце прэзідэнта — і ў вас атрымліваецца дыктатура.

Вы націскаеце кнопку, запускаеце ракету — і ў вас атрымліваецца вайна.

Вы становіцеся мішэнню, залазіце ў зямлю і ператвараецеся ў чалавека-крата.

Вы стараецеся прывыкнуць да цемры, трэніруеце зрок, але ўрэшце становіцеся сляпымі.

Вы седзіце пад зямлёй, жмурыце вочы і слухаеце легенду пра вялікіх майстроў, якія многае ўмеюць рабіць хутка і неахайна.

Бо сляпыя.

XXVI

## Чырвань ад напругі

Вы моцна чырвоныя ад напругі.

Вы шмат працуеце.

Вы рвяце жылы, вылазіце са скуры, скачаце вышэй галавы, ідзяце праз ваду, агонь і медныя трубы, кідаецеся з агню ды ў полымя, гарыце, як свечачкі, заграбаеце жар сваімі ж рукамі, працуеце не чуючы рук, не спіце, а толькі змыкаеце вочы, б'яцеся ілбамі аб сцены (аб лёд, аб дзверы і да т. п.), хапаеце паветра шырока разяўленымі ратамі, лезеце ў хамут, запрагаецеся ў аглоблі, цягнеце воз, несяце свой крыж, стамляецеся да сёмага поту, выконваеце пяцігодку за чатыры гады, падзяляеце людзей на сваіх і гадаў, надрываеце пупкі, ломіце косткі, муліце шыю, тупееце галавою.

Ecce homo: парваныя жылы, ашмоццe скуры, абпаленыя валасы, пакручаныя пальцы, прыпухлыя вочы, шышасты лоб, змуляная шыя, засалены крыжык, патлівы твар, тупая галава.

Вы проста шмат працуеце.

І таму вы моцна чырвоныя ад напругі.

XXVII

## Манна-мана

Вы — раса

у якой выспявае
пакуль што налітае
жыта
апошняя белая раса
планеты

Вы — каса

што адрэжа сцёблы
ад карэння і дасць
ураджаі
якая падводзіць раху-
нак карысці і шкоды

Вы — сукі

на якіх будзе сохнуць
спакойнае жыта
бо надта заўзята
займаліся блудам і
ўцехай

Вы — мука

на якую размелецца
процьма зярнятаў
якая агорне душу ў
святле разумення

Вы — кара

што стаўчэцца, каб
потым дабавіцца ў
цеста
што будзе спасланая
вам на збаўленне

Вы — манна (мана)

якая накорміць нас-
тупнае жыта

што знішчана
будзе святлом не-
згасальным

## XXVIII
## Каканаванне кокаў

Вы самі ведаеце, што вы пачвары, і таму:

вы моцна сціскаеце вусны, каб людзі не бачылі вашых драпежных іклаў;

вы прыплюшчваеце вочы або носіце чорныя акуляры, каб ніхто не бачыў вашы пустыя зрэнкі;

вы кожны вечар акуратна падстрыгаеце кіпцюры, каб не даць часу ім закруціцца;

вы хаваеце сваё цела пад панцырам адзення, каб не раздражняць людзей поўсцю;

вы носіце далікатны модны абутак, каб схаваць у ім свае брудныя капыты;

вы любіце пагаварыць пра чысціню, а пакідаеце толькі гразь;

вы думаеце, што мы не ведаем, што вы ведаеце, што вы — пачвары.

Мы пазнаём вас па сціснутых вуснах, прыплюснутых вачах, задужа вузка падстрыжаных кіпцюрах, стылёвым адзенні, мадэльным абутку і па вашых размовах.

Вы вучыце нас быць пільнымі.

XXIX

## Чарнільная пляма

Вы падобныя на тлустую чарнільную пляму, якая патрапіла на паперу і расцякаецца, расцякаецца, расплываецца, пашыраецца, паглыбляецца, заліваючы ўсё болей і болей прасторы, сціскаючы, звужаючы пятлю на шыі бязмежнай свабоды, ператвараючы святло ў беспрасветную цемру, паглынаючы надзею, летуценні і межы, ператвараючы ў нябыт нявыказаныя ненапісаныя словы і думкі, закрываючы свет неадкрытых адкрыццяў, чорнай дзіркай засмоктваючы ў сябе магчымасць, каб на некалькі імгненняў спыніцца перад апошняй кропляй святла, каб з яшчэ большай асалодай, аблізнуўшыся, выпучыўшы свае чорныя вочы і дрыжучы ўсёй сваёй сутнасцю, у адно імгненне праглынуць ЯЕ.

Але і ў чорнай пляме ёсць святло.

XXX

## Льюбоў

Вам падабаецца назіраць за суседзямі.

Вы любіце стукаць у органы дзяржаўнай бяспекі.

Вы любіце круціць вуха пацану, які нашкодзіў.

Вы любіце палец, якім можна торкнуць у вока.

Вы любіце мыцца ў плётках пра лепшага сябра.

Вы любіце суддзяў, што судзяць асуджаных вамі.

Вы любіце ружы, калі аб іх хтось абкалоўся.

Вы любіце ласты, бо маеце клей, каб іх склеіць.

Вы любіце атам, бо ім можна многае знішчыць.

Вы любіце голас, калі вы вялікі начальнік.

Вы любіце гнёзды, якія так лёгка парушыць.

Вы любіце тое, што ў нас выклікае агіду.

XXXI

## Шэрая шыр

Вы любіце шэрыя сцены.

Вам утульна ў шэрых пакоях.

Вам падабаюцца шэрыя дамы.

Вы захапляецеся шэрым небам.

Вы пачуваецеся хвараваіта, калі сонца раптам уключае сваё святло.

Вы занавешваеце вокны, каб вярнуць страчаную шэрасць.

Вы фарбуеце сцены ў шэры колер.

Вы будуеце дамы з шэрай цэглы.

Вы закрываеце вочы чорнымі акулярамі.

Вам шкодзіць сонца.

Сярод яркіх колераў так адметна бачна ваша шэрасць, і таму вы любіце шэрыя сцены ў шэрых пакоях шэрых дамоў пад шэрым-шэрым небам…

XXXII

## Хэнць

Вы хочаце падабацца.

То вы распускаеце веерам свой паўлінаў хвост і цыбата шпацыруеце, высока задраўшы дзюбу;

то вы гучна мяўкаеце, пракладаючы сцежкі па апошнім сакавіцкім снезе;

то вы, накрычаўшыся «ку-ка-рэ-ку» і нахлопаўшыся крыламі, мутнымі вачыма ацэньваеце насельнікаў куратніка;

то вы, усеўшыся на куст, насвістваеце дужа мудрагелістыя каленцы;

то вы, падпёршы ласінымі рагамі неба, трубіце на ўвесь лес пра саспелую багатырскую сілу;

то вы, далучыўшыся да сабачынай зграі, весела бегаеце па горадзе, бесклапотна памахваючы хвастом і забыўшыся на гаспадара, будку і абавязкі;

то вы, выпаўзшы з возера непрыгожай казарай,ператвараецеся ў прыемную блакітную стракозу і пырхаеце, пырхаеце…;

то вы, забіўшыся ў гушчар і падсунуўшы морду да месяца, пачынаеце выціскаць з сябе рамантычны вой;

то вы, купіўшы кветкі і гумовыя інтымныя шары, едзеце некуды, каб пагаварыць пра ўзвышанае і прыгожае.

Вы хочаце падабацца…

## XXXIII
## Часам

Вы ідзяце па полі.

Часам падымаецеся на ўзгорак. Бывае, узгорак аказваецца Джамалунгмай, і тады вы крычыце: «Мама!»

Часам спускаецеся ў даліну. Бывае, даліна пераходзіць у палескія балоты, і вы зноў крычыце: «Мама!»

Часам заходзіце ў нейкі горад. Бывае, заблукаўшы, трапляеце ў тупік, і тады зноў лямантуеце: «Мама!»

Часам сустракаецеся з каханнем. Бывае, дакахаўшыся, набываеце хваробу, і тады зноў ускрыкваеце: «Мама!»

Часам натрапіце на дождж. Бывае, перуны так адлупяць вас, што вы галосіце: «Мама!»

Часам убачыце мяне. Можа быць, падыдзеце — і тады я вас пашлю.

А пакуль што — ідзіце па полі.

Толькі ведайце, што калісьці прыйдзеце да краю прорвы і паспееце прашаптаць толькі «ма...»

Калі ў вас увайшлі ў пяро крылы, то вы паляціце.

Калі ваш трыбух набіты камянямі, то вы будзеце доўга падаць.

Але гэта — калісьці…

А цяпер — вы ідзяце па полі.

## XXXIV
## Глыбінныя веды

Вы маеце глыбінныя веды.

Вам вядома, што сонца ходзіць вакол зямлі, а каб яно не паляцела ў космас, прывязана тонкім, але моцным сталёвым дротам.

Вам вядома, што сярод кратоў сустракаюцца залатыя краты, якія зарываюцца глыбока ў нетры, дзе, напаўшы на залатую жылу, харчуюцца ёю.

Вам вядома, што Беларусь мяжуе з такімі ладнымі краінамі, як Расея, Кітай і Штаты, бо сама вельмі магутная.

Вам вядома, што ваш род пачынаецца ад Нерона (па матчынай лініі) і 19-й жонкі Чынгісхана (па бацькоўскай), а заканчваецца пакуль што вамі.

Вам вядома, што колькі рыбу ні паі, а яна ўсё адно піць хоча.

Вам вядома, што алкаголь — ваш вораг, але вы з апантаным энтузіязмам праглынаеце бочкі гарэлкі, віна і піва, бо шануеце Біблію, у якой запісана, што трэба любіць ворагаў сваіх.

Вам вядома, што ў прароцтвах Настрадамуса напісана і пра вас, але пакуль што цэнтурыя гэта не расшыфравана навукоўцамі.

Вам вядома, што калі доўга-доўга ісці на захад, то прыйдзеш на ўсход, бо полюсы перыядычна мяняюць свае знакі.

Вам патрэбна вялікая і глыбокая скрыня. (Для смецця.)

Бо вы маеце дужа глыбінныя веды.

## XXXV
## Нахабства

Вы маеце нахабства.

Гэта такая каштоўная якасць, якую добра мець, калі іншыя якасці знаходзяцца ў форме эмбрыёна.

Дзякуючы ёй вы:

першымі залазіце ў перапоўнены аўтобус (тралейбус, трамвай, цягнік, самалёт, верталёт, касмічны карабель…);

без чаргі заходзіце ў любы паліклінічны кабінет (тэрапеўтычны, хірургічны, псіхіятрычны, рэанімацыйны…);

без комплексаў размаўляеце на любой метрапалічнай мове (рускай, ангельскай, хань, хіндзі, эсперанта, дыялект, жаргон…);

не зважаючы на надпісы «No smoking» паўсюль паліце «Marlboro» («Kent», «Прыму», «Беламор-канал», махорку, самасад…);

не ведаючы правілаў дарожнага руху, ездзіце на BMW («Мерседэсе», «Запарожцы», БЕЛАЗе, трактары «Беларусь», танку, ровары…);

не чытаўшы Чырвонай кнігі, ловіце матылькоў (баброў, мядзведзяў, хахуляў, стэлеравых кароў (нядойных), кітоў…);

## XXXVI
# Вечаровая зара

Вы любіце вечаровую зару.
У час, калі сонечныя прамяні пачынаюць
прыціскацца да лініі гарызонту

вы выходзіце
на балкон
(калі ў горадзе)

вы назіраеце маленькіх чалавечкаў унізе і асцярожна плюяце, стараючыся патрапіць на лысіну інтэлігента з дыпламатам

вы дастаяце папярэдне падрыхтаваную палівачку і пачынаеце акуратна паліваць сімпатычных жанчын, якія толькі што пакінулі цырульню

вы выходзіце
на ганак
(калі ў вёсцы)

вы ацэньваеце адлегласць да суседскага плата і плюяце, стараючыся перакінуць частку сваёй злосці на агарод суседа

вы з калодкі і дошчачкі робіце невялікі трамплін, ставіце на яго папярэдне падрыхтаваныя бляшанкі з вадой і па складанай траекторыі з метадычнай перыядычнасцю адпраўляеце іх за плот суседа

вы надзеяце загадзя падрыхтаваны шланг на рыльца ваннага крана і паліваеце ім невялічкую купку пенсіянераў

вы размотваеце свой палівачны шланг, адкручваеце да адказу венціль і накіроўваеце струмень на хату суседа

вы стыкуеце пажарнае рукаво з папярэдне перапіленай трубой сістэмы ацяплення — і магутны паток ляціць насустрач разяўленым ратам зацікаўленых гледачоў

вы ўключаеце папярэдне падрыхтаваны брандспойт і напраўляеце яго на здзіўленую фізіяномію суседа, які непрадбачліва адчыніў дзверы

вы чуеце харавое выкананне ляманту

вы чуеце мацюкальнае сола

вы пакідаеце

балкон

ганак

і ідзяце ў хату.

Вы задаволены, бо вас заўважылі. Дзень не прамінуў бясследна. Вы любіце вечаровую зару за яе рамантыку.

XXXVII

# Выyou

Вы — паўсюль.

Нават там, дзе вас быццам бы і няма.

Нават у тлумачальным слоўніку беларускай мовы ў раздзеле пра трыццаць першую літару алфавіта.

Звычайная літара «ю».

Але ж мы ведаем, што тое, што чуецца як «Ю» — па-ангельску запісваецца як «You», што па-тутэйшаму значыць «Вы».

Вы ўтвараеце шмат слоў.

«Ю + бка» — ніжняя частка якога-небудзь цыліндрычнага вырабу, якая ў родным склоне множнага ліку гучыць як непрыстойнасць.

«Ю + да» — здраднік. Як пацвярджэнне таго, што вы — гэта вы.

«Ю + доль» — месца, дзе пакутуюць. Такая ваша доля, ці доля тых, хто з вамі?

«Ю +р» — павышанае імкненне да задавальнення палавых пачуццяў (без каментару).

«Ю + ра» — юрскі перыяд у гісторыі Зямлі. Час росквіту вашых суродзічаў.

«Ю + рт» — сукупнасць уладанняў асобных татарскіх ханстваў. Крыніца разумення вашых гісторыка-сацыяльна-палітычных арыентацый.

«Ю + с» — назва дзвюх літар у старaславянскім алфавіце, якія абазначалі насавыя галосныя. Ці не гэта прычына таго, што вам так даспадобы гнусавыя важдзі?

«Ю + ха» — гук вашай весялосці. Узнікае, калі сёрбаеце рыбны адвар і запіваеце яго гарэлкай або калі пускаеце каму-небудзь з носа кроў.

## XXXVIII
## Вынаходзь

Вы маеце апантанае імкненне да ўдасканалення.

Калі вы вынайшлі дубінку, каб зручней біць па галовах суседзяў па планеце, і паспрабавалі яе эфектыўнасць тысячагадовым эксперыментам, то ўпэўніліся, што дубінка добра б’е толькі па дубовых галовах, і тады прыдумалі дзіду.

Калі вы вынайшлі дзіду, каб зручней было прабіваць гарачыя сэрцы суседзяў па планеце, і паспыталі яе эфектыўнасць на працягу тысячагоддзя, то ўпэўніліся, што калі праколваецца сэрца, то з’яўляецца шмат крыві, а кроў прываблівае мух, што дужа неэстэтычна і нават троху раздражняе, і таму вы прыдумалі лук і стрэлы.

Калі вы вынайшлі лук і стрэлы, каб, схаваўшыся ў хмызняку, страляць на адлегласці ў спіны суседзяў па планеце, і правялі выпрабаванне іх эфектыўнасці на працягу тысячагоддзя, то ўпэўніліся, што ўбойная сіла пушчанай стралы рэзка памяншаецца ў прапорцыі $y = x^{2,583}$ і зусім не пужае ахвяру, і таму прыдумалі стрэльбу.

Калі вы вынайшлі стрэльбу, каб бабахаць і забіваць сваіх суседзяў па планеце на адлегласці і ў розных паставах, і правялі выпрабаванне на працягу пяцісот гадоў, то ўпэўніліся, што стрэльба дае вельмі нягучны выбух і мае дужа невялікі каэфіцыент карыснага дзеяння, які апісваецца формулай «адна куля — адзін нябожчык», і таму прыдумалі гармату.

Калі вы вынайшлі гармату, каб гучным выбухам пужаць сваіх суседзяў па планеце і забіваць іх па формуле «адзін снарад — дзесяць нябожчыкаў», і правялі выпрабаванне на працягу дзвюхсот гадоў, то ўпэўніліся, што бабаханнем зараз мала каго здзівіш і спужаеш, і таму прыдумалі ракету.

Вы пусцілі ў палёт свае думкі.

(Палёт думкі: час скарачаецца і набліжаецца да 0; адлегласць павялічваецца і дасягае парогавай велічыні 6371 км (R) і 40000 км (L); формула спрашчаецца і набывае сваё канечнае выражэнне: «адзін стрэл — 6 мільярдаў нябожчыкаў».)

Вы маеце апантанае імкненне да ўдасканалення.

*P. S.* Шкада, што забыліся на дубінку, — яна так ёмка б’е па дубовых галовах.

## XXXIX
## Ганарыя

Вы любіце хадзіць па слядах цывілізацый.

Вы адкрываеце Манголію, калі ўвесь свет ужо адкрыў Амерыку.

Вы збіраеце камяні, калі ўвесь свет ужо будуе палацы.

Вы вяжаце венікі, калі ўвесь свет ужо парыцца ў лазні.

Вы блукаеце па кароўніках ды сметніках, калі ўвесь свет ужо вандруе ў Інтэрнэце.

Вы вынаходзіце ровар, калі ўвесь свет ужо катаецца на аўто.

Вы лепіце дачныя пасёлкі, калі ўвесь свет ужо стварае мегаполісы.

Вы паварочваецеся тварам да чалавека, калі ўвесь свет ужо глядзіць у вочы.

Вы чакаеце зімы, каб мець цёплую ваду, калі ўвесь свет мае кіпень і летам.

Вы слухаеце мат, калі ўвесь свет слухае файную музыку.

Вы складаеце ў кучку рублі, калі ўвесь свет расплочваецца далярамі.

Вы выпускаеце кавадлы, калі ўвесь свет карыстаецца робатамі.

Вы ганарыцеся сваім гонарам, калі ўвесь свет шануе сумленне.

Вы падтрымліваеце дыктатуру, калі ўвесь свет цешыцца дэмакратыяй.

Вы стаіце ў чэргах, калі ўвесь свет ездзіць і глядзіць на свет.

Калі вы пакідаеце чэргі, то міжволі наступаеце на сляды цывілізацый.

І ганарыцеся сваёй дыктатурай, сваімі кавадламі, сваімі рублямі, зімовай цёплай вадой, роварам і дачнымі пасёлкамі, караўнікамі і сметнікамі, венікамі і камянямі, а таксама лепшым сябрам — Манголіяй.

І гонар свой выказваеце шчырымі мацярынскімі словамі.

## XL
## Жыццёвая сцежка

Вы ведаеце, што дзеці — ваша багацце, якое вы знойдзеце ў будучыні (у старасці).

Вы таксама ведаеце, што вучоныя дзеці — гэта ваша $(багацце)^2$.

Вам разумныя людзі гаварылі, што разумныя дзеці — гэта $(багацце)^{2+n}$.

На 2 + n пацягнуць складана, бо трэба ведаць генетыку, селекцыю, умовы жыцця і творчасці, уплыў алкаголю на зародак, метады выхавання і пакарання, камп'ютар, сканер, прынтар, інтэрнэт, літаратурную спадчыну чалавецтва, антычнасць і сучаснасць, градус павароту зямлі і месяца, актыўнасць сонца і пасіўнасць планет, кульмінацыю сузор'яў, адмеціну на лобе, нараджэнне ў сарочцы.

Каб пацягнуць на 2, усё гэта ведаць неабавязкова, толькі трэба асіліць лікбез падыходу і адыходу, а таксама мець арыентацыю ў маркетынгу чалавечых патрэб.

Таму вы вучыце дзяцей.

Вы аддаяце сваё дзіцятка ў Best-Kinder-садок, уваходзіце ў давер да выхавацельніцы, дарыце ёй невялікія прэзенты і вялікія букеты і ведаеце, што за гэтыя знакі ўвагі

соплі і задок вашага нашчадка будуць выцерты, крыўдзіцелі будуць пакараны, банцік і штонікі будуць на сваіх месцах, а ў час абеду самы апетытны кавалачак ежы ляжа на талерку перад пысай вашага хлопчыка (дзяўчынкі).

Потым вы аддаяце сваё дзіцятка ў прэстыж-скул, заносіце бутэлечку каньячку дырэктару (дырэктарцы), уваходзіце ў давер да найлепшага класнага кіраўніка сваёй нязмушанай увагай да ягоных патрэб, што выражаецца ў вялікіх букецiках, бутэлечках духоў (адэкалону), імпартных лаках і фарбах, гелях «да» і «афтэ», дыпламатах (парасонах), наборах для ваннага пакоя (туалета), натурпрадуктах, і вы з вялікім задавальненнем атрымліваеце прыгожы атэстат без чацвёрак (без троек, без двоек).

Потым, у залежнасці ад трываласці вашых ведаў у маркетынгу, падыходах і адыходах, атрыманага атэстата, вашага разумення моды ў выбары ВНУ, вы аддаяце свайго дзіцёнка ў эканамічны (медыцынскі, тэатральна-мастацкі, замежных моў) інстытут, увайшоўшы ў давер да старшыні прыёмнай камісіі, куратара і выкладчыкаў шляхам пастаўкі ў сталіцу (абласны цэнтр) смажаных і свежых вугроў, рыбы вялікага

і сярэдняга памеру, ягад журавін (чарніц, брусніц, дурніц), свіных плячэй свежаапрыходаваных, ялавічнага сцягна, мяхоў з бульбай (капустай, агуркамі, яблыкамі), арганізаваным адпачынкам на Нарачы і на Браслаўскіх азёрах, паляваннем у Бярэзінскім запаведніку і Белавежскай пушчы, у выніку чаго будзеце мець магчымасць атрымаць на рукі прыгожы дыплом са сціплым укладышам з адзнакамі, які можна выкінуць, каб адразу зняць усе магчымыя пытанні.

Потым вы знаходзіце даходнае месца, актыўна выкарыстоўваючы свой багаты маркетынг-патэнцыял і дакладна трымаючыся запаветнага рытуалу падыходу і адыходу да міністраў, намміністраў, намнамміністраў, дырэктараў і іх намаў, старшынь Саветаў і кіраўнікоў вертыкаляў і гарызанталяў, і ўладкоўваеце сваё дзіцятка на сімвалічную працу з рэальнай зарплатай.

Потым, у залежнасці ад устойлівасці вашых сувязяў з істэблішментам, выкарыстоўваючы гіганцкі вопыт у маркетынгу і правілах падыходаў-адыходаў, вы прасоўваеце сваё дзіцятка ўверх па службовай лесвіцы.

І чакаеце (багацця)[2].

XLI

## Ды ялектыка ды сафістыка

Вы горача любіце дыялектыку.

Вы ведаеце, што навакольны свет адзіны таму, што ён складаецца з антаганізмаў.

І вам гэта прыемна.

І вы прыдумляеце выдатныя правілы на ўсе выпадкі жыцця.

Чым горш, тым лепш. (Чым лепш, тым горш.)

Любая таямніца становіцца явай. (Любая ява становіцца таямніцай.)

Светлы змрок. (Змрочнае святло.)

Мы гаворым «Партыя», а маем на ўвазе «Ленін». (Мы гаворым «Ленін», а маем на ўвазе «Партыя».)

Лета пасярод зімы. (Зіма пасярод лета.)

Рыхтуй санкі летам, а воз зімой. (Рыхтуй санкі зімой, а воз летам.)

Чалавек нараджаецца, каб паміраць. (Чалавек памірае, каб нараджацца.)

Лепей болей ды лепей. (Лепей лепей ды болей.)

Дзень пераходзіць у ноч. (Ноч пераходзіць у дзень.)

Выцісні з сябе раба — і станеш вольным. (Стань вольным — і выціснеш з сябе раба.)

Быццё вызначае свядомасць. (Свядомасць вызначае быццё.)

Каб лавіць рыбу, трэба мецць вуду. (Каб лавіць вудай, трэба мецць рыбу.)

Каб быць шчаслівым, трэба быць здаровым. (Каб быць здаровым, трэба быць шчаслівым.)

Народжаны поўзаць лятаць не можа. (Народжаны лятаць поўзаць не можа.)

З яйка вылупляецца курыца. (З курыцы вылупляецца яйка.)

У любым чорным ёсць белае. (У любым белым ёсць чорнае.)

## XLII
## Ложкі

Вы любіце ложкі.

Шырокія і вузкія, драўляныя і металічныя, рамантычныя і суровыя, барочныя і класічныя, сеткавыя і спружынныя, аднаспальныя і двухспальныя, высокія і нізкія, з брыжамі і без брыжоў, з матрацамі мяккімі і не вельмі, ва ўтульнай спальні і ў райскім шалашы, з карункавым балдахінам і кветачкавай посцілкай, аздобленыя разьбой і ўпрыгожаныя золатам і г. д. і да т. п.

Ваша жыццё — гэта змена ложкаў. Можна нават сказаць, што ваша жыццё праходзіць у ложку.

Вы нараджаецеся і адразу патрапляеце на маленькі ложак — у люльку.

Там вы забаўляецеся, дрыгаеце ножкамі і ручкамі, верціце галоўкай, ссяце сосу, філасофствуеце, спіце і крычыце, а таксама робіце сі-сі і ка-ка.

Вы падрастаеце — і ложак павялічваецца ў памерах.

У новых ложках вы асвойваеце новыя манеры і спасцігаеце пэўныя набыткі нашай цывілізацыі: вы вучыцеся чытаць, пісаць, варушыць языком, марыць, займацца мастр.,

глядзець эратычныя сны, ужо не крычыце і не плачаце, а робіце сі-сі і ка-ка толькі па вялікіх святах.

Наступае дзень (або ноч), калі вы кладзяцеся ў ложак з асобай супрацьлеглага полу і навучаецеся шырокаму асартыменту рухаў і пастаў, да якіх можна аднесці: пахлопванне, пагладжванне, пакрыкванне, пашчыпванне, пабрыкванне, пасапванне, пачмокванне, пакалыхванне, а таксама наследаванне ( у комплексе) еўрапейскай, усходняй і сабачай традыцыі. Вам становіцца зразумелай глыбокая сутнасць старажытных тэрмінаў «ідрані», «расшчапленне бамбуку», «стан лотасу», «прасрытака», «джагхана», «аўпарыштака», «смакаванне манга-манга».

Пасля асваення першай асобы супрацьлеглага полу вы выпадкова расплюшчваеце вочы, азіраецеся вакол і заўважаеце, што такіх — 3 млрд. І тады пачынаеце рабіць усё фізічна магчымае, каб іх стала яшчэ больш.

Пасля рэалізацыі палавой функцыі вы прыходзіце да высновы, што ўвесь свет развіваецца дзякуючы таму, што ёсць ложкі. Росквіт дзяржаў і кампаній, пачатак вайны і перамір’е, палітычны ўзлёт і апалітычнае падзенне, і нават размнажэнне

ідэй залежыць ад ложкаў. У ложку набывае цяжарнасць думка зрабіць свет шчаслівым, у ложку нараджаецца праект стварэння новых відаў танкаў, самалётаў і ракет, у ложку ў прыпадку экстазу вывяргаюцца на свет хвалі весялосці і шаленства, якія потым пераходзяць у жаданне цішыні і спакою.

Вы будуеце жыццё, лежачы ў ложку, цешыцеся жыццём, лежачы ў ложку, і пакідаеце жыццё, лежачы ў ложку.

Вы патрапляеце ў апошні свой ложак — дамавіну, дзе лежыце роўненька, ціхенька і спакойненька і не робіце нічога з таго, што выраблялі ў маленстве і ў сталыя гады. У вас застаецца апошняя пачэсная зямная місія — пакарміць чарвякоў.

## XLIII
## Твор твар

Вы маеце твар.

Твар — гэта адметная частка вашай асобы, бо на ім месцяцца: нос, шчокі, вочы, бровы, лоб, рот, вусы і барада (асобныя індывідуумы) і фінгал (як рэдкасць).

Па тварах вы вызначаеце адзін аднаго і таму прыдумалі для пярэдняй часткі галавы шмат эпітэтаў: прыгожы, сінявокі, сінякаваты, ніякаваты, лабаты, лабасты, лысасты, вусасты, храпавіты, воспавы, разумны, абвіслы, акруглы, брыты, біты, буйны, вуглаваты (прамавугольны, квадратны, 40°), вузкі, слізкі, выпешчаны, выпучаны, выгалены, дагледжаны і недагледжаны, дзябёлы, зарослы, калмыцкі (славянскі, афрыканскі, першабытны), касцісты (слабакасцісты, сярэднекасцісты, адны косці), кірпаты (кірпаносы), мясісты (мяса-сальны, сальны), маршчысты (атынкаваны), пабіты (падзюбаны, парэзаны, прыпалены, прыпылены), масіўны (пасіўны, прагрэсіўны), пародзісты (дварняжкавы), плоскі (пляскаты, патлаты, пухнаты), рабы (рабацінны, рыбны), прышчасты (струкасты, струпасты), сыты (тлус-

ты, лупаты, тоўсты), шурпаты (шчаціністы, кепска выбрыты).

Калі не хапае адукацыі, каб апісаць твар прыстойнымі словамі, вы прыдумляеце мілагучныя замяняльнікі.

Прыкладам, морда.

Морда просіць цэглы. Конская (малпавая, сабачая, сучкіна, змяіная, драпежная) морда. Морда чырвоная, як пасля лазні (хоць прыкурвай, як партбілет, як у варанага рака, як зад у макакі, як вячэрняе сонца, як камунізм, як насавая юшка). Мардаварот. Ты што, з Мардовіі? Марда — ты.

Бывае, прыціскае патрэба выказацца больш элегантна з ухілам у замежжа, і тады вы выкарыстоўваеце вытанчанае слоўца «фэйс».

Тады і чуецца ў свецкіх гутарках: фэйс як кэйс, фэйсам аб тэйбл (тэйблам аб фэйс), фэйсам у доо, маляваны фэйс (ручная работа), фэйсік-бэйсік, пачварэн фэйс, гуманоідэн фэйс, фэйсавая гёрла.........

Каб не даць падстаў для падазрэння ў абмежаванасці слоўнага запасу, вы разнастаіце свае выказванні такімі мілагучнымі выразамі, як «мурло суседа (суседкі)», «рожа родзіча», «рыла інтэлігента», «анфас злодзея», «партрэт, заседжаны мухамі».

Вы працягваеце прыдумляць сінонімы і эпітэты.

Бо вы маеце твар.

## XLIV
## Тутэйшы трэвэл

Вы любіце вандраваць.

Вы не адмовіліся б наведаць Канары, але пры ўмове, што там будуць прыгожыя дзяўчаты, піва і від на мора.

Вы мелі б задавальненне паехаць у Альпы, але пры ўмове, што там будуць прыемныя жанчыны, віно і від на горы.

Вы не абмінулі б Залатыя Пяскі Балгарыі, але пры ўмове, што там будуць рамантычныя кабеткі, гарэліца і від на пяскі.

Вы маглі б адцягнуць сябе і  на Нарачы, але пры ўмове, што там будуць праверанproblemsыя дзеўкі, кабыленская самагонка і від на сосны.

Вы любіце вандраваць.

І таму ў бліжэйшы выхадны дзень, закінуўшы за плячо вялікую сумку, у кампаніі з такімі ж рамантыкамі і раманты… (-цамі? -чкамі? -шкамі?) адпраўляецеся да бліжэйшай сажалкі, раскладваеце на посцілцы, папярэдне акуратна разасланай паміж каравякамі, напоі, хлеб і агурок, і, слухаючы жабіна гранне, абмяркоўваеце рамантыку падарожжаў.

Вы ж любіце вандраваць.

## XLV
# Ца

Вам мроіцца часціца ца.

Ваша крыніца — часціца ца.

Ваша жывіца — часціца ца.

Жывіца: нарадзіцца, накрычацца, насмактацца, навучыцца, напрацавацца, навандравацца, напівацца і цверазіцца, апранацца і распранацца, тапіцца і ратавацца, катацца, разбівацца і рамантавацца, лажыцца і падымацца, змагацца і дамагацца, губляцца, шукацца і знаходзіцца, дагукацца, дачакацца, дабіцца, далучыцца, даслужыцца, адмовіцца і пагадзіцца, паваліцца, не варушыцца, развітацца, закапацца…

Крыніца: спадабацца, закахацца, усміхацца, цалавацца, мілавацца, ца-ца, па…ца, на…ца, за…ца, развітацца, мроіцца, сустракацца, кахацца, па…ца, на…ца, вы…ца, за…ца, стамляцца, адраджацца, зноў падабацца, кахацца, цалавацца, мілавацца, па…ца, на…ца, вы…ца, за…ца, развітацца, закапацца…

Сонца садзіцца.

Калі вам ляжыцца — сініца прысніцца.

Калі не ляжыцца — то трэба лячыцца.

Там, дзе крыніца, — вадзіца іскрыцца. Можна напіцца.

Жывіца.

Ца-ца.

## XLVI
## Цік

Вы — цікаўныя істоты.

Вам падабаецца цікаваць.

Вы нават больш цікаўныя за таямнічастаражытную жывёліну ціка, якая з прычыны сваёй празмернай цікаўнасці знянацку вымерла.

Прычым бясследна.

Вам невядомасць не пагражае. Вы так шмат наследавалі вакол, што забяспечылі работай археолагаў, гісторыкаў і псіхапатолагаў будучыні на гіганцкую перспектыву. І ўсё з прычыны таго, што вам бязмерна падабаецца цікаваць. Прычым не толькі проста цікаваць, як гэта рабіў рамантычна-прасцецкі цік, а сачыць, пільнаваць, наглядаць, назіраць, закладаць.

Ваша жаданнеператварылася ў род дзейнасці і ледзь не стала відам спорту са стабільным даходам.

Вы маеце шмат вытанчаных спосабаў задавальняць свой цікаўны інстынкт.

Вы любіце назіраць у замочную шчыліну за лесвічнай пляцоўкай, калі там сусед з суседкай спрабуюць знайсці кропачкі сутыкнення.

Вы робіце вялікія намаганні, каб знайсці шчылінку ў дошках, што аддзяляюць М ад Ж у правінцыйнай грамадскай прыбіральні.

Набыўшы бінокль, вы доўгімі зімовымі вечарамі займаецеся тым, што вывучаеце інтэр'ер кватэр суседняга дома, прычым пераважна спальняў.

Летам вы метадычна наведваеце шумныя гарадскія пляжы, дзе зацікаўлена даследуеце анатомію чалавечага цела.

Вашу павышаную цікавасць выклікае чытач «Плейбоя» або «Эмануэль» — вы ацэньваеце знешняе праяўленне прачытанага.

## XLVII

## Семкалузганне

Вы любіце філасофстваваць.

Асабліва калі летняе прыгожае сонца павольна сплывае да бліжэйшага балота, а вы седзіце на лавачцы, разглядаеце пыльную вуліцу і лузгаеце семкі. Працэс разгрызання семак надае вашаму твару засяроджаны выраз, якраз такі, які мелі антычныя грэкі, калі разважалі ад будове сусвету.

Пыльная вуліца, асабліва калі па ёй ужо прайшоў статак кароў, вельмі нагадвае мадэль метагалактыкі: касмічны пыл і газ яшчэ гойсае ў прасторы, утвараючы гіганцкія віхуры і паступова асядаючы на кароўскія бліны, якія відавочна нагадваюць спіралепадобныя галактыкі. Краявід паступова накрываюць прыцемкі, і бездань паглынаецца невядомасцю.

Вы філасофствуеце.

Вашыя думкі спачатку аналізуюць стан узаемаадносін Манькі, якая хінецца да Ванькі, а Ванька тым часам ціскае Аньку, якая паміж ціскаННЯМі спіць з Мішкам, які ўжо тры гады як жанаты з Люськай, якая, між іншым, гуляе з Ванькам, які не чапае

Манькі, якая, між іншым, хінецца і да Мішкі, які ўжо два гады як не любіць Люські, якая мае дачушку ад Ванькі, які хоча зрабіць дачушку і Аньцы, якая ў падазрона блізкіх адносінах з Манькай, якая два гады назад спакусіла Мішку, які не дае спуску ні адной жанчыне.

Потым вы філасофствуеце пра віды на ўраджай. Была халодная вясна і дрэнна пасадзілася, а зараз прыйшло спякотнае лета і дрэнна паліваецца. Трава сохне на карані. Мала сакавітых кармоў, але не трэба сушыць сена — касі і вазі. Але каса па сухому хутка тупіцца. Вастрыць прыйдзецца часцей, стома адолее. Стагоў будзе мала. З Манькай не будзе куды пайсці…Т-рр! Пра гэта ўжо філасофстваваў.

Потым можна пра свінню ўспомніць, што апарасілася, а есці бульбы паранай не жадае — падавай ёй папсаваныя бананы ды апельсіны.. Свіння ў апельсінах — добры выраз. Трэба запомніць, каб заўтра ў майстэрні ўвярнуць гэта. Будзе рогату.

Канчаюцца семкі. Выгляд твару набывае звычайную калгасную дэфініцыю.

Галава рэзка яснее (пусцее), але затое пачынае ссаць у страўніку.

Пасля філасофіі адчувальна хочацца падмацаваць стомленыя мазгавыя звіліны.

Вы любіце філасофстваваць.

## XLVIII
## Асалода правакацый

Вы любіце барацьбу.

Вы кідаеце ў шкляны паўлітровік двух прусакоў і на дзясятыя суткі з асалодай назіраеце, як адзін з'ядае другога.

Вы ловіце маленькую рыбку, дражніце ёю катоў, а потым у захапленні назіраеце за тым, як яны кіпцюрамі разрываюць адзін аднаму вочы.

Вы падбіраеце на вуліцы двух дварняжак, не корміце іх тры дні, а потым прапануеце невялікую свінячую костачку і з пэўным задавальненнем слухаеце рык і брэх раз'юшаных жывёлін.

Вы ідзяце на ферму, дзе стаяць схуднелыя някормленыя бычкі, і падсоўваеце ім на доўгіх вілах невялічкі ахапак духмянага сена і потым з замілаваннем назіраеце, як яны бадуцца і лупяць адзін другога капытамі.

Вы сваімі ўхмылкамі і ўжымкамі правакуеце на агрэсію льва і тыгра, а потым залазіце на высокае дрэва і адтуль пераможна назіраеце бітву гігантаў драпежнага свету.

Вы гоніце самагонку, поіце ёю суседзяў, а потым асцярожна праз фіранку ў акне сочыце за тым, як яны ўвесістымі аргументамі

даказваюць правільнасць сваёй пазіцыі ў дачыненні да магчымасцяў сусветнай рэвалюцыі.

Вы вырабляеце аўтаматы і прадаяце іх ворагам, а потым, схаваўшыся ў бліндажы, слухаеце мелодыю пралятаючых куль.

Вы адчуваеце ў крыві вялікую хвалю шчасця.

Бо вы любіце барацьбу.

## XLIX
## Слухаць цішыню

Вы любіце слухаць цішыню.

Асабліва калі ўстаць дужа-дужа рана (або не лажыцца дужа-дужа позна) і пайсці куды-небудзь у поле, ці лепш у лес, глядзець на зоркі, чакаць зару і слухаць, слухаць…

А яшчэ лепш, каб не было сумна і страшна, пайсці ў гэта ж самае поле ці лес разам з кім-небудзь, весці спакойныя гутаркі, глядзець на зоркі, чакаць зару і прыслухоўвацца, прыслухоўвацца…

Але найлепш пайсці ў гэта поле ці лес разам з сябрамі, паставіць палаткі, запаліць вогнішча, піць гарэлку, спяваць песні, таньчыць пад магнітафон і, дачакаўшыся зары, паваліцца п’яным у траву і, натапырыўшы вушы, намагацца паслухаць цішыню.

Будуць шумець машыны на шашы.

Будзе гудзець маслабойны апарат недалёкага маслазавода.

Будуць гулка стукаць колы цягніка на далекаватай чыгунцы.

Будзе проста звінець у вушах. (Алкаголь.)

І вы падумаеце, што гэта цішыня.

Вы любіце слухаць цішыню.

L

# Сусветны сум

Вы адчуваеце сусветны сум.

Ён сцелецца туманамі, б’ецца дажджом у вокны, вые ветрам у дроце, каркае варонай на дрэве, агортвае нотамі пахавальнага аркестру, свеціцца ў позірках незнаёмых людзей, высмоктвае энергію шэрасцю шэрага-шэрага неба…

Надыход новага дня выклікае ў вас агіду і галаўны боль. Тысяча «трэба» стаіць пад дзвярыма і чакае вашых мазгоў, каб дзяўбсці, дзяўбсці…

Надыход чарговае ночы не нясе палёгкі, бо каля ложка стаіць змрочны сон, які ўжо падрыхтаваў маляўнічыя жахі, задушша і падзенне ў бездань.

Надыход вясны выклікае раздражненне. Гэтыя неўтаймавальныя прыродныя працэсы, гэта шалёная кроў у галаве і ў жылах, гэтыя неакрэсленыя жаданні…

Прыход жанчыны нараджае самоту, Дзеля наталення інстынкту прыходзіцца пакутаваць целам, каб адчуць толькі стому.

Надыход восені спрашчае наваколле і суцішае кроў, але ад гэтага не робіцца лягчэй, бо голым і безнадзейным робіцца існаванне.

Заканчэнне новага дня, выхад з чарговае ночы, развітанне з вясной, знікненне жанчыны і сустрэча восені робяць сусветны сум амаль невыносным.

Вы чакаеце рахунак і ўжо не маеце спадзявання на рэшту.

Вы адчуваеце сусветны сум.

## LI

## Павуцінапляценне

Вы — павукі.

Вы не шыпіце, як змеі, не гыркаеце, як тыгры, не брэшаце, як сабакі, не каркаеце, як вароны, не лягаецеся, як коні.

Вы ціхія і непрыкметныя.

Ніхто вас не заўважае, калі вы з'яўляецеся там, дзе вас няма.

Вы ўважліва і грунтоўна робіце агледзіны ваколля, назіраеце паводзіны заклапочаных жыхароў, вывучаеце траекторыі іхніх рухаў, аналізуеце перспектывы.

І потым пачынаеце пляценне.

Павуціны.

На радыяльныя промні ўпэўнена і па-гаспадарску вы накручваеце спіраль.

Спіраль вечнасці.

Той, хто патрапіць у павуцінне, будзе заматаны вамі ў кокан і набліжаны да смерці.

Радасць знішчэння ахвяры робіць ваша існаванне асэнсаваным.

Вы маеце маленькі розум, але вялікі інстынкт.

Лавіць і знішчаць — вось ваша мэта, ваш сэнс, ваша жыццё.

Толькі б не было ветру і веніка — усё астатняе можна перамагчы павуціннем.

Вас цешыць ваша патаемная накіраванасць.

Бо вы — павукі.

## LII
## Казачны сада-маза

Вы любіце слухаць казкі.

Праўда, не ўсе і не да канца.

Вам падабаюцца выбраныя месцы.

Ванька-дурань адсякае дванаццаць галоў Змею Паганаму, кроў б’е фантанам і расцякаецца, расцякаецца…

Дзед вязе зімой на санках бабіну дачку, садзіць яе на снег пад хвою, і праз колькі часу ў дзяўчыны адмярзаюць ногі, рукі, нос, нутро і яна ледзянее.

Хлопчык п’е ваду з лужынкі і становіцца козлікам.

Змей Гарыныч прылятае і есць жанчын.

Іван — сялянскі сын пайшоў у трыдзясятае царства і не вярнуўся.

Цар лупцуе дубцамі сваіх вяльможаў, а яны ўслаўляюць ягоную мудрасць.

Шэры воўк глытае кастлявую Бабку і закусвае пульхнай Унучкай.

Вурдалак пракрадаецца апоўначы ў спальню каралеўскага палаца і смокча кроў сімпатычнай прынцэсачкі.

Ля Лукамор’я пад дубам цар разам з катам прыбівае да дрэва язык мужнага Руслана.

З прыпечка падае яечка: дзед плача, баба плача, а курачка кудахча.

Воўк разганяецца і з усяе моцы б’ецца галавой аб дрэва, а лісіца назірае, як мазгі расцякаюцца, расцякаюцца…

## LIII
# Штучкі

Вы хочаце, каб на вас звярталі ўвагу.

Вам падабаецца падабацца.

Вы любіце, калі на вас глядзяць, вас слухаюць, вас нюхаюць, вамі захапляюцца.

Дзеля гэтага вы прыдумляеце разнастайныя штучкі:

ходзіце да пояса голыя, але ў штанах;

надзяваеце на галаву шапку-аблавуху з адарваным вухам;

абуваеце рыбацкія боты з доўгімі халявамі, праз якія адчайна вытыркаюцца вашы сіняватыя пальцы;

фарбуеце нос у пралетарскі колер, а вусны — фарбай развітога капіталізму;

скачаце вышэй галавы праз калючы дрот;

выкрыкваеце на балконе арыі з опер, пакуль не прыедзе опер;

засоўваеце галаву ў пясок і дрыгаеце нагамі;

пасыпаеце сябе дустам і ствараеце водар;

робіце дуду і дудзіце на вуліцы да першага промня;

вешаеце вермішэль на вушы і разносіце яго па суседзях;

купляеце на базары папугая і спяваеце з ім блатныя песні;

праходзіце праз учарашні агонь, газіраваную ваду і ўлазіце ў медную трубу;

прарошчваеце бараду, але голіце валасы, у тым ліку і на галаве;

выварочваеце ватоўку і танцуеце лявоніху з бабай забальзаміраванага ўзросту;

у тры гадзіны ночы крычыце на плошчы на ўсю моц сваё любімае: «Людзі! Чаму не спіце!?»;

нават у сне вы робіце так, каб моцна храпелася, ложак рыпеўся, а твар выказваў поўнае задавальненне;

## LIV
## Рыбалка

Вы любіце працэс рыбалкі.

Вы закідваеце вуду з адным кручком і, трымаючы яе ў руцэ, чакаеце.

Не клюе, але плавае.

Вы закідваеце яшчэ адну вуду, але ўжо з двума кручкамі і, паклаўшы яе на рагулькі, чакаеце. Не клюе, але плавае і плешчацца.

Вы закідваеце перамёт на сто кручкоў і, пакурваючы, чакаеце. Не клюе, але плавае і яшчэ больш дзёрзка плешчацца.

Вы закідваеце сетку і, паглядаючы ў бінокль на паплаўкі, чакаеце. Не клюе, але плавае і плешчацца аж занадта дзёрзка.

Вы закідваеце дынаміт і, схаваўшыся за пагоркам, чакаеце. Не клюе, але плавае брухам уверх і плешчацца, але воддаль.

Вы капаеце канаву, спускаеце ваду з возера і збіраеце рыбу. Хоць і не клюе, але і не плавае. І плешчацца ў мяшках.

Працэс рыбалкі заканчваецца.

Вас агортвае пачуццё глыбокага задавальнення і рэлаксацыі.

Вы любіце працэс рыбалкі.

LV

## Шыза

Вы любіце шызу.

Шыза — гэта такая салодкая праява, якая ўласціва адсутнасці мазгоў, празмернасці алкаголю і нядзюбанню курамі грошай.

Прыцягнуць на пяты паверх свінню з парасятамі і падкласці яе суседу колішняй сяброўкі, а на свінячым хвасце прымацаваць паперку з пажаданнямі моцнага здароўя ягонай цешчы.

У перапоўненым аўтобусе непрыкметна прыціснуцца да прыемнай жанчыны і прышчапіць ёй ззаду дзесяць прышчэпак з кароткімі рознакаляровымі стужкамі, а потым замілавана назіраць за яе бясхмарным абліччам.

Купіць пяць партрэтаў Вядомай Асобы па сто рублёў за морду і арганізаваць у дварышчы спаборніцтвы паміж суседзямі на дакладнасць плявання на адлегласць у мішэнь, скарыстаўшы чатыры партрэты ў якасці прызавога фонду для тых, у каго назіраецца павышанае слюнацячэнне.

Злавіць голуба, карміць і вучыць, а потым выпусціць на волю і, назіраючы палёт

сімвала міру, слухаць ягоныя палымяныя заклікі: «Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бацян!»

Ноччу запусціць у студню галодных карасёў, а раніцай на вачах у людзей займацца вынiковай рыбалкай.

Прыйсці з работы, уключыць радыё і тэлевізар без гуку. Адчуць асалоду.

LVI

# Пешка і фігура

Вы не капаеце кар’еры.

Вы робіце кар’еру.

Вы разумееце, што здароўе, гонар і дабрабыт залежаць ад пасады.

Пакуль вы не маеце начальніцкай дзялкі, то мусіце:

стаяць перад начальнікам і выслухваць ягоныя маралі;

дрыжэць пад час праверак, кантролю і начальніцкага крыку;

не спазняцца на работу і не пакідаць яе раней:

не курыць і тым больш не выпіваць у рабочым працэсе;

ездзіць на гарадскім аўтатранспарце;

адпачываць у вёсцы;

купляць цукеркі на вялікія святы;

хадзіць з гаспадарчымі сумкамі па базарах;

глядзець першы (і адзіны) канал беларускага тэлебачання;

Калі вы атрымоўваеце начальніцкую пасаду, то тады хутка і адметна мяняецеся, што праяўляецца ў тым, што вы можаце:

сядзець (нават перад жанчынай) і чытаць маралі падначаленым;

застаўляць дрыжэць іншых пад час праверак;

спазняцца на работу і пакідаць яе ў любы час;

курыць і нават выпіваць за рабочым сталом;

ездзіць на дарагіх аўто;

адпачываць у Францыі;

купляць скрынямі шампанскае;

быць наведвальнікамі супермаркета;

глядзець на свет праз спадарожнікавую антэну;

## LVII

## Свабоднае катанне

Вы любіце катацца,

Вы любіце катацца на танках.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках па нашай зямлі.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках па нашай зямлі і крычаць пра свабоду.

Вы любіце свабоду.

Вы любіце крычаць пра свабоду.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі з дубінкамі ў руках.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі з дубінкамі ў руках, катаючыся на танках.

І які ж ................................ не любіць катацца на танках па нашай зямлі?

LVIII

## Амаль усё

Вы — дрэвы, што дагараюць у печцы эпохі.

Вы — целы, што ярка палаюць у крэматорыі гісторыі.

Вы — бомбы, што ўзрываюцца ў імя справядлівасці.

Вы — смецце, што гніе на падмурку цывілізацыі.

Вы — сена, што сохне на поплаве прасторы.

Вы — пясок, што сыплецца ў лічыльніках часу.

Вы — снег, што тае на далоні неба.

Вы — ноч, што цямнее ўвосень стагоддзя.

Вы — колер, што бачна губляе ўласную фарбу.

Вы — песня, што ўжо адчувае апошнюю ноту.

Вы — кропля, што важка сцякае ў бездань прадоння.

Вы — сажа, што слоем лажыцца на гарызонты паверхні.

Вы — мул, што спадае на дно вадаёмаў галактык.

Вы — рэха, што марна блукае ў пушчы сузор'яў.

Вы — вока, што хутка заплюшчыцца...

LIX

## ТСБМ: выбрымкі

Вы надзіва словаўтваральныя.

Вы нарадзілі каля 2,5 тысячы слоў беларускай мовы.

Пра ваш словаўтваральны працэс можна пісаць кнігі, дысертацыі, даследаванні. А можна і не пісаць.

Вы ўтвараеце словы, паказваючы сваю сутнасць.

«Вы + бар» — вы праз бар ідзяце на выбары і выбіраеце барскіх людзей.

Вашым выбарам мы ніяк не можам нацешыцца.

«Вы + брыкі» — калі вы брыкаецеся, што з'яўляецца вашым натуральным станам, то праяўляецца гэта ў «нечаканых учынках, якія супярэчаць агульным правілам паводзін» (ТСБМ, т.1, с. 520).

«Вы + бух» — калі вы робіце маленькі бух, то ўтвараецца вялікі выбух.

«Вы + быць» — такое станоўчае і аптымістычнае «быць» побач з вамі губляе свае добрыя ўласцівасці і ператвараецца ў агрэсара: «выбываць», «выбіваць», «вынішчаць», «выкідаць» і да т. п.

«Вы + вады» — калі вы ў свае разважанні наліваеце шмат вады (а без яе вы ніколі не абыходзіцеся), то тады і атрымліваюцца вывады.

«Вы + ваз» — калі ў вашых руках апынецца руль ад аўтамабіля «ВАЗ», то гэта значыць, што вы кагосьці абавязкова будзеце вывазіць за Волгу (у Сібір, за краты, у Дальлаг і г. д.)

«Вы + віх» — калі вы ўваходзіце ў стан найвялікшага ўзбуджэння і выкрыкваеце «йых!», або «віх!», або «ях!», то абавязкова гэта суправаджаецца вывіхам касцей, скрутам галавы або адхіленнямі па фазе.

«Вы + вудзіць» — ваш працэс рыбалкі пазбаўлены рамантызму — вас цікавіць закончанае дзеянне.

«Вы + гады» — калі вы ўступаеце ў хаўрус з якім-небудзь гадам, то з гэтага заўсёды атрымліваеце карысць.

«Вы + дацца» — калі вы аб што-небудзь стукнецеся, то вам абавязкова нешта выдаецца.

«Вы — дача» — продаж цікавых звестак пра вашых сяброў, знаёмых, знаёмых вашых знаёмых у кампетэнтныя органы і зацікаўленыя арганізацыі дае вам магчымасць набыцця дачы.

«Вы + есці» — вы не можаце есці ўсё як ёсць, вам абавязкова трэба выесці сярэдзінку або смачнейшае.

«Вы + крут» — дзякуючы сваім выкрутам і выкрунтасам вы робіцеся крутымі.

«Вы + маніць» — вы так соладка ўмееце маніць, што заўсёды набываеце нешта хітрыкамі і падманам.

«Вы + марыць» — калі вы свае мары рухаеце ў жыццё, то гэта прыводзіць да знішчэння атрутай, голадам і пад.

«Вы + мова» — калі вы пераходзіце на мову, то гэта яўная пагроза камусьці атрымаць адміністрацыйнае дысцыплінарнае спагнанне.

«Вы + паліць» — усё засмяглае, прагнучае вады вы вынішчаеце агнём.

«Вы + раб» — толькі знаходзячыся пад прыгнётам, вы можаце даваць добрыя прадукты працы.

«Вы + род» — няма роду без выроду.

«Вы + творца» — ваша спалучэнне з творчасцю пры ўсіх вашых намаганнях утварае толькі груба-матэрыяльнае.

LX

## Зялезная логіка

Вы ведаеце, што:

калі нельга, але вельмі хочацца, то можна;

калі доўгі час некага называць дурнем, то ўсе ў гэта паверацaverage;

калі доўга праследаваць звера, то самому можна патрапіць у пастку;

калі доўга плыць супраць цячэння, то можна выбіцца з сіл;

калі доўга ісці па вуліцы, то выйдзеш у чыстае поле;

калі доўга чытаць Ніцшэ, то можна палюбіць суседку Параску;

калі доўга слухаць казкі, то можна патрапіць у трыдзясятае царства;

калі доўга глядзець белтэл, то можна апынуцца на ______________________________;

калі доўга спакойна ляжаць, то можна заснуць;

калі доўга есці мяса, то можна наесціся;

калі доўга піць гарэлку, то можна напіцца;

калі доўга глядзець удалячынь, то можа сцямнець;

калі доўга парыцца ў лазні, то можа не хапіць духу;

калі доўга глядзець на зоркі, то яны могуць пагаснуць;

калі доўга глядзець на кветкі, то яны могуць засохнуць;

Вы гэта ўсё ведаеце.

А навошта?

LXI

## Моц абставінаў

Вы дзейнічаеце ў залежнасці ад абставін.

На рабоце вы:

разглядаеце ножкі маладой супрацоўніцы;

расказваеце і слухаеце старыя і новыя анекдоты;

філасофствуеце, гледзячы ў акно, на сцяну або на столь;

тэлефануеце жонцы, каханцы, знаёмым і незнаёмым;

абмяркоўваеце вынік апошняга футбольнага матча;

збіраеце грошы на падарунак начальніку;

наведваеце суседнія магазіны;

п’яце каву і закусваеце пончыкам;

чытаеце чарговы бестселер, г. зн. «Вышкі»;

маўчыце на тэмы палітыкі;

робіце знакі ўвагі маладой супрацоўніцы;

у перапынках паміж гэтымі справамі вы працуеце;

Дома вы:

расказваеце жонцы казку пра тое, як вас загрузілі на рабоце работай;

гледзіце чарговы футбольны матч і плануеце яго абмеркаванне на працы;

чытаеце зборнік анекдотаў і вучыцеся іх расказваць;

падпісваеце (з дзягай) дзённік сыну;

п’яце за вячэрай піва (пры магчымасці — і гарэлку);

кладзяцеся ў ложак;

цалуеце жонку;

засынаеце з думкамі пра новы рабочы дзень і пра ножкі маладзенькай супрацоўніцы;

Вы прывыклі дзейнічаць у абставінах.

## КОНКУРС

На думку Аўтара, купляньне і чытаньне вышак павінна выступаць не толькі ў ролі духоўнага набытку (пачуццёвае ўзрушанне, сардэчнае трымценне, душэўны пад'ём, жаданне палёту і да т. п.), але і мець матэрыяльную карысць.

З гэтай мэтай праводзіцца конкурс. Паводле ягоных умоў кожны купляч і чытач вышак мае права на тое, каб:

падзяліць вышкі з гэтай кніжкі на групы (гл. «Прадмоўку»);

назваць (акрамя «Вышак») іншыя кніжкі, якія выдаў Аўтар;

прыслаць свае вышкі, ключы, замкі і фаніры для ўключэння іх у другое(народнае) выданне кнігі.

Удзельнікаў і пераможцаў чакаюць арыгінальныя прызы і прэміі:

10 (дзесяць) першых прэмій — уік-энд з Аўтарам на адным з Нарачанскіх азёр (у асартыменце ўсё з канчаткам «-ка»: палатка, рыбалка, гарэлка, закуска, тушонка, капчонка, гулянка, загаранка, купанка, вячэрка і сняданка, чытанка і вышка);

20 (дваццаць) другіх прэмій — сяброўскае пахлопванне па плячы (для мужчын), рамантычны пацалунак (для жанчын);

неабмежаваная колькасць трэціх прэмій з індывідуальнымі прызамі.

Да Аўтара далучаецца і Фундатар, які таксама любіць сяброўскае паляпванне па плячы і рамантычныя пацалункі.

Адрас Аўтара: igarpr@gmail.com

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч

**ВЫШКІ**

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 27.06.2013. Фармат 70х90 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 4,24.
Ул.-выд. арк. 2,02. Наклад 215 ас. Зак. 364.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.